КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Бокам выйшла «зарплата» ад нябожчыка-брата

Жанчына з Нароўлі ўпотайкі пахавала свайго памерлага брата-інваліда ў вёсцы і 8 гадоў атрымлівала за нябожчыка ягоную пенсію.

Як не ў сабе была жанчына,
Слёз праліла яна зашмат.
І бедаваць была прычына:
Памёр яе любімы брат.
Ён быў з дзяцінства
інвалідам,
Зусім яшчэ не дзед стары.
Аднак жанчына
з сумным відам
Не паяўлялася ў двары.
Яна трымалася бадзёра,
На твары ўсмешка,
як заўжды,
Нібы не сёння і не ўчора
Яе не напаткала гора,
Няма падставы для нуды.
Сястра нябожчыку сказала:
– Як чалавечак не чужы,
Ты мне даброт даваў нямала
І пасля смерці паслужы.
Хоць ты ўжо
не на гэтым свеце,
Ды атрымоўвай пенсіён…
Здалося ў гэты міг кабеце:
Згадзіўся, падмаргнуўшы, ён.
Зрабіць жанчына так хацела,
Каб шыта-крыта ўсё было:
Употайкі ад іншых цела
Завезла ў дальняе сяло.
Там дзед мясцовы за капейкі
Парупіўся наконт труны.
(Нябожчык –
не Ракфелер нейкі,
Труна не з дуба, а з сасны.)
Апойкі выкапалі яму,
Як дзве бутэлькі ім дала,
І пра яе нягоду-драму
Не ведаў больш ніхто з сяла.
Не ведалі і ў райсабесе,
Што падапечны інвалід
Знайшоў спачын
у паднябессі,
Навек адправіўся ў нябыт.
Налічвалі па завядзёнцы
Службоўцы пенсію яму.
Сястра казала паштальёнцы:
– Хварэе ён, дык я вазьму…
Была жанчына ўдзячна
брату:
Хоць ён сканаў ужо, але
Ёй дадатковую зарплату
Бесперапынна з раю шле.
Сумневу не было ў кабеты,
Што брат яе ў раі жыве:
Хоць ён папом і не адпеты,
Ды свечкі ставіла ў царкве.
Душа нябожчыка таксама
Была давольнаю ўгары:
Сышла "жыццёвая
праграма",
Ды дагаджае ён сястры.
І цешыла наверсе брата,
Што згадваецца ён у сне,
А здарыцца якое свята –
Сястра за чаркай памяне.
Аднак ідылію знявечыў,
Завёўшы справу,
пракурор…
(Аж восем год прайшло,
дарэчы,
З тае пары, як брат памёр!)
А калі слова скажуць суддзі
(Бадай, сумневу ў тым няма),
У выніку прытулкам будзе
Яму – труна, а ёй – турма.

* * *

А брат пад вечкам тым
сасновым
Аж заварочаўся ў труне:
"Сястра мяне
Харошым словам
Зноў памяне
Ці пракляне?.."

СОРАМ!




## Як беларускія дыпламаты ў Італіі развіталіся з роднай мовай...

Я сам з Маладзечна Мінскай вобласці, але на дадзены момант па сямейных абставінах часова пражываю ў Рэспубліцы Італія. Не так даўно мне спатрэбілася дапамога з боку беларускай амбасады, але калі я адчыніў старонку МЗС Беларусі ў інтэрнэце, то звяртацца туды і тым больш прасіць якой-небудзь дапамогі ў мяне адпала жаданне. Я быў вельмі ўражаны і абражаны і зараз растлумачу чаму...

Справа ў тым, што на дзяржаўным вэб-сайце Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама на вэб-сайце амбасады МЗС РБ у Рэспубліцы Італія ўвогуле (!!!) адсутнічае беларуская дзяржаўная мова! Адчыніўшы раскладку сайта з мовамі, я ўбачыў, што ёсць толькі дзве мовы – руская і італьянская. Ведаеце, я валодаю і той, і другой, але ж мне як беларусу (не толькі па крыві і сумленні, але ж і па грамадзянстве) трэба мая родная мова – беларуская.

Памысліўшы трохі, я адчыніў старонкі другіх амбасад Беларусі – літоўскай (мовы толькі руская і літоўская), латвійскай (мовы толькі руская і латвійская) і гэтак далей – і не здолеў знайсці родную беларускую мову... Я нават зрабіў некалькі фотаздымкаў тых пасольскіх старонак, каб паказаць, што нічога не блытаю.

Унізе старонкі я знайшоў звесткі, што распрацоўкай сайта і яго дызайну займалася студыя Pixellhead, якая з'яўляецца структурнай часткай кампаніі IBA.

У мяне, як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, узнікае пытанне: чаму пры стварэнні вэб-сайта, які па сутнасці сваёй з'яўляецца «люстэркам» Беларусі, яе «візітнай карткай», не была ўжыта беларуская мова, а была ўжыта толькі мова суседняй краіны – Расіі?

Растлумачце мне, калі ласка, хто-небудзь – як гэта зразумець?

Трэба думаць, гэты безбеларускамоўны вэб-сайт пасля стварэння быў яшчэ, безумоўна, і зацверджаны нейкім чыноўнікам з МЗС РБ, а можа, нават і самім міністрам. І вось тут у мяне ўзнікаюць галоўныя пытанні.

Гэта было наўмысна зроблена супраць інтарэсаў Рэспублікі Беларусь?

Гэта дыскрымінацыя дзяржаўнай беларускай мовы з боку Pixellhead ці МЗС РБ?

Гэта наўмысная дыверсія з мэтай дыскрэдытаваць Рэспубліку Беларусь перад міжнародным супольніцтвам?

У дадзеным выпадку вельмі жорстка парушаны канстытуцыйныя правы не толькі мае, але ж і ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Вельмі хацелася б, каб па гэтым пытанні далі адказ, тлумачэнні і прававую ацэнку гэтай з'явы дзяржаўныя ўлады, якія па законе павінны рэагаваць і праводзіць праверку па такіх заявах у СМІ.

Для прыкладу скажу: першае, што было зроблена з боку італьянскіх улад, калі я прыехаў у Італію, – са мной заключылі пісьмовую дамову аб тым, што я павінен авалодаць іх мовай, атрымаць веды па культуры, гісторыі і традыцыях, геаграфіі краіны (і заключаў я гэтую дамову не абы з кім, а з кіраўніком рэгіёна, у які прыехаў, а ён мае статус, прыкладна як старшыня аблвыканкама ў нас). Мяне накіравалі на бясплатныя школьныя курсы, дзе са мной займаліся выкладчыкі, каб было трохі лягчэй. Потым здаваў моўны іспыт і на выдатна здаў усё... Людзі перш за ўсё сябе і сваё паважаюць, а ў Беларусі... Ну што тут скажаш, нават сваёй роднай мовы не ўжываюць.

Сорам!

**Андрэй КВЯТКОЎСКІ.**

РОЗДУМ

## «Прыгожа жывуць!..»

У савецкі час падчас службы на флоце мне давялося пабываць у розных краінах і ўбачыць, як жывуць там людзі.

Аднойчы наш карабель ішоў з Балтыйскага мора на поўнач цераз дацкія пралівы. Было лета, чэрвень. Ярка свяціла сонца, і маракі, вольныя ад вахты, глядзелі на бераг, які быў зусім-зусім блізка.

Мы ішлі, зразумела ж, пад чырвоным сцягам, гарматы былі зачахлёныя брызентам. З берагоў нас віталі мясцовыя жыхары; салютавалі рыбакі ў лодках. Мы ўбачылі якісьці рыбацкі пасёлак: белыя аднапавярховыя будынкі з чырвонымі дахамі, вакол – невысокія жоўтыя платы, акуратныя дарожкі. І ўсюды – кветкі, кветкі… "Прыгожа жывуць, нам бы так!" – уздыхалі нашы маракі.

– А чаму мы самі не здольныя так жыць? – заўважыў адзін з афіцэраў, што аглядаў бераг у бінокль. – Прыедзеце дамоў пасля службы – рабіце на здароўе прыгажосць ля свайго жылля.

Маракі маўчалі…

– Таварыш камандзір, будзем старацца, – за ўсіх адказаў я.

– А што тут прыгожага? – пачулася чыясьці рэпліка. – Тут жа забастоўкі ўсялякія, умовы працы вельмі цяжкія, ну проста гнілы капіталізм – гэтак усе пішуць і гавораць у нас.

Афіцэр нічога не адказаў і пайшоў на вахту, а мы ўсё глядзелі і глядзелі на гэтае "загніванне". Глядзелі, як на дзівосную казку наяве…

Мінула амаль паўвека пасля маёй службы. Неяк на сваіх "Жыгулях" я ехаў наведаць родныя мясціны на Магілёўшчыне. У вёсцы спыніўся ля крамы. Убачыў купку мужчын, што дзялілі пляшку "на траіх". Чацвёрты сядзеў крыху воддаль ад асноўнага "кантынгенту" і не браў удзелу ў п'янцы. А тамаду з пляшкай я пазнаў адразу: мой колішні сусед Міхаіл, таксама былы марак. Павітаўшыся, ён прапанаваў выпіць за сустрэчу, за "тых, хто ў моры". Я адмовіўся, бо зараз за рулём, і пацікавіўся: а чаму незнаёмы мне мужчына стаіць убаку, не ўцягнуты ў агульнае "мерапрыемства"?

– Дык гэта ж немец, муж маёй сястры Дар'і. Прыехалі ў госці з Германіі, ніколі не п'юць на людзях.

Аказваецца, Дар'я з нашай вёскі выйшла замуж за абрусеўлага немца з Паволжа. Жывуць яны стала ў Германіі, і добра жывуць. А кожны год Дар'я прыязджае з сям'ёй на радзіму, дзе пахавана яе маці.

Гэты немец падчас свайго гасцявання ў магілёўскай вёсцы не гуляў – рамантаваў дах хаты, цэментаваў двор, фарбаваў плот, усталёўваў помпу для вады, паліваў агарод. А Дар'я з дачушкамі садзілі кветкі, падмяталі вуліцу – словам, наводзілі парадак-прыгажосць, да якіх чамусьці ў мясцовых жыхароў рукі ніяк не даходзілі. Вяскоўцы падыходзілі дзівіцца. Адны паціскалі плячыма, другія адабральна прыгаворвалі: маўляў, як хораша мяняецца ўсё вакол суседскай хаты…

– Ой, прыгожа ўмеюць жыць людзі! Быццам іншага клопату няма. Вось бы і нам так!..

А потым пацiху разыходзіліся, і ўсё ішло ў іх, як і раней…

**Іван СЫРНІКАЎ,**
**жыхар г.Барысава.**

ПОЗИЦИЯ

## Не раскулачивайте «кулаков»




Беларусь не поднимет экономику за счет лодырей, пьяниц, наркоманов (количество которых растет), а выживет прежде всего за счет талантливых, умных, предприимчивых людей, настоящих тружеников. И их нужно ценить на вес золота, а не «раскулачивать». Кстати, «кулаками» называли людей, которые трудились от зари до зари и, не успевая вернуться домой с поля, засыпали там, подложив под голову кулаки. Поэтому и пошло название «кулаки», а на самом деле они были настоящими тружениками, заинтересованными в больших урожаях и хорошем приплоде и привесе скота.

Нельзя разорять способных, предприимчивых людей, постоянно пополняющих государственную казну. Неразумно резать курицу, несущую золотые яйца. А «раскулачивание» под любым предлогом (нет всех документов, сертификатов и т.п.) может привести, как и 100 лет назад, к нищете, войне, беззаконию. Наши деды и прадеды проливали кровь в войне за нашу свободу, а не за тотальный контроль и «раскулачивание».

Эти слова я адресую прежде всего А.Г.Лукашенко, который определяет политику в стране.

**Л.П.НОВИКОВА, минчанка.**

РЭЗАНАНС

## Грамадзянская актыўнасць ці грамадская павіннасць?

У №68 «Народнай Волі» на паласе "Пошта" змешчаны фотаздымкі – запоўненая людзьмі, колькі бачыць вока, плошча, сцягі, партрэты… І загаловак – "Вось вам і туркі…". Мяркуючы па подпісе да здымкаў, чытачка газеты Таццяна Сідарэвіч захапляецца грамадзянскай актыўнасцю туркаў, якія выйшлі *"на вуліцы Стамбула пасля нядаўняй спробы перавароту"*. Яна лічыць, што *"нам, беларусам, трэба павучыцца ў іх"*.

Прабачце, паважаная спадарыня Таццяна, але я не разумею, чаму Вы заклікаеце нас вучыцца. Паводле толькі афіцыйных паведамленняў, пасля няўдалай спробы перавароту (многія эксперты лічаць, што гэта была інсцэніроўка дзеля вынішчэння ў краіне не згодных з курсам Эрдагана) у краіне былі арыштаваны 13 тысяч чалавек, затрыманы і звольнены каля 60 тысяч. Ідзе гаворка пра аднаўленне смяротнага пакарання. У такіх варунках цяжка ўявіць, што людзі не выйшлі б у масавым парадку на мітынгі ў падтрымку дзеючай улады. Калі гэта лічыць узорам грамадзянскай актыўнасці, дык гэтаму на постсавецкай прасторы, думаецца, нікога вучыць не трэба. Сузіранне першамайскіх і іншых дэманстрацый, святочных трыбун з працоўнымі на ваенных парадах, натоўпу сагнаных на святкаванне Тысячагоддзя хрышчэння Русі настаўнікаў, якія прастаялі некалькі гадзін на санцапёку, чакаючы таго, "хто вышэй за Бога", і "намесніка Бога на зямлі", павінна напаўняць сэрца радасцю за грамадзянскую свядомасць суайчыннікаў. А ўжо масавы ўдзел у датэрміновым галасаванні пад наглядам непасрэдных начальнікаў па працы – дык увогуле "трыўмфальнае шэсце" актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

**Сафія ЭЛІНА.**

*Гродна.*

З ПІСЬМА

## Калі закончыцца гэта вакханалія?

Яшчэ тыдзень-другі таму хлеб бялковы "Славяначка" можна было купіць за 5600 недэнамінаваных рублёў, сёння ён каштуе ўжо 7100.



Спадар Лукашэнка, калі ўсё ж такі закончыцца гэта вакханалія з цэнамі? Калі яны растуць, то на такую ж велічыню павінны павышацца і пенсіі, зарплаты рабочых і служачых.

**Алег САДКОЎ.**

*Мінск.*

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Каб не пераплачваць за электраэнергію…

***З ранняй вясны да позняй восені жыву ў вёсцы, дзе пасля смерці бацькоў застаўся дом. Вядома, што прапісана я ў горадзе, а таму ў мінулыя гады даводзілася плаціць за тую ж электраэнергію па павышаных тарыфах. Кажуць, сёлета сітуацыя для вясковых "дачнікаў" змянілася. Ці праўда гэта?***

**Надзея КУРЫЛЬЧЫК.**

Рэдакцыя звязалася з "Белэнерга" і даведалася, што з гэтага года ўведзена аплата па субсідзіраваных тарыфах для непрацуючых пенсіянераў і інвалідаў, якія жывуць адпаведны перыяд у вясковым доме без пастаяннай рэгістрацыі. Для таго каб не плаціць за электрычнасць па павышаных тарыфах, трэба звярнуцца ў сельскі Савет і адзначыць сваё месца знаходжання на той ці іншы перыяд. Затым зайсці ў мясцовую арганізацыю "Энергазбыту" і напісаць заяву з просьбай дазволіць вам разлічвацца за электрычнасць па субсідзіруемых тарыфах.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## Які лёс чакае аршанскі кляштар?

У горадзе Орша на беразе ракі Аршыцы ў сярэдзіне XVIII стагоддзя быў узведзены выдатны архітэктурны ансамбль: мужчынскі базыльянскі кляштар і ўніяцкая царква. Пабудовы з'явіліся па волі старасты Івана Лянкоўскага; сваім хараством яны ўражвалі не адно пакаленне, нават нягледзячы на тое, што ў 1839 годзе пастановы Брэсцкай уніі былі скасаваны і ўніяцтва пачало выкараняцца. Яны перажылі падзелы Рэчы Паспалітай, вайну з Напалеонам, рэвалюцыю 1917-га, Вялікую Айчынную…

У XIX стагоддзі частка царквы была разбурана, але яе аднавілі. І ўсё ж у 1969 годзе яе знішчылі па загадзе ўлад. Ад храма засталіся толькі парэшткі, якімі хацела завалодаць мясцовае аддзяленне міліцыі. Але кляштар грамада адваявала. Праўда, праз некаторы час з яго зрабілі жылое памяшканне.

На пачатку 2000-х будынак былой царквы наогул аказаўся закінутым, і лёс гэтага помніка архітэктуры перастаў кагосьці цікавіць, акрамя супрацоўнікаў музеяў ды творчай інтэлігенцыі. Праўда, спробы рэстаўрацыі прадпрымаліся ў 2011–2015 гадах, ля былога кляштара нават узвялі драўляную каплічку, затынкавалі адзін вугал – і на гэтым усё скончылася.

Цікава, што літаральна ў некалькіх хвілінах хады ад кляштара знаходзіцца іншы архітэктурны помнік – аршанскі іезуіцкі калегіум, які ў савецкі перыяд на доўгія гады стаў турмой. Пасля распаду СССР яго таксама закінулі, і ён стаяў у цэнтры горада нікому не патрэбны, акрамя бамжоў ды купак мясцовай моладзі. Але, кажуць, пра яго даведаўся прэзідэнт Беларусі, і ў 2007 годзе па яго загадзе пачалася рэстаўрацыя помніка. Хутка ў цэнтры горада вырас велічны будынак з 26-метровай вежай, у якім размясціліся дзіцячая бібліятэка, мастацкая галерэя, кафэ. Ён стаў месцам розных святаў, турысцкім аб'ектам і, вядома ж, упрыгажэннем горада. У той час як базыльянскі кляштар стаіць без даху і паціху разбураецца.

Лёс кляштара ўжо не адзін год хвалюе аршанцаў. Нядаўна мясцовыя краязнаўцы сабраліся на пасяджэнне Грамадскай назіральнай камісіі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры, каб вырашыць лёс помніка. Сябра Беларускага саюза мастакоў Мікола Купава (дарэчы, ён бачыў, як разбуралі царкву) коратка распавёў пра гісторыю кляштара і пра цяперашняе становішча. Ён выказаў абурэнне тым, што нікога з епархіі і ўлад лёс помніка гісторыі не хвалюе.

Рэстаўратар Мікалай Лук'янчык сказаў:

– У 2011 годзе мы пачалі распрацоўваць план рэстаўрацыі. Праект быў гатовы і ў 2012 годзе ўзгоднены. Аднак не было фінансавання, усё давялося спыніць…

Краязнаўца Таццяна Вароніна паказала перапіску з уладамі і пракуратурай, якая цягнецца з таго часу, калі кляштар перадалі ва ўладанне праваслаўнай царквы. Святары абяцалі аднавіць дах на будынку, аднак потым адмовіліся, аргументаваўшы гэта тым, што на паўразбураных сценах дах трымацца не будзе. Гэта і прымусіла краязнаўцаў звярнуцца ў Міністэрства культуры.

Напрыканцы мінулага месяца дах усё ж пачалі ўзводзіць. Так, законсерваваць помнік, магчыма, і ўдасца. А калі ён будзе адноўлены ў сваёй першаснай красе?

**Святлана ГАЛУЗА.**

СМЕХОТУРА

## Оглянемся и… улыбнемся

«Не понимает человек шутки – пиши пропало», – заметил Антоша Чехонте, он же Антон Павлович Чехов, мастер подтекста, умевший даже анекдот обратить в минишедевр, от которого становилось смешно и грустно.

Современники А.П.Чехова, его коллеги по перу юмор понимали и шутить умели. В этом убеждаешься, просматривая российские сатирические журналы «Сатирикон», «Патрон», «Защитник», «Шрапнель», издававшиеся на заре XX века.

Нынче в России да и у нас в Беларуси шутки и юмор в дефиците, о сатире же лучше и не заикаться… О своем житье-бытье мы привыкли говорить с хмурым выражением лиц. Даже о наполеоновских планах и прожектах на завтра и на обозримое будущее почему-то стало модным вещать с оглядкой назад, как бы давая понять: не грех вернуться в прошлое, в некий «обновленный СССР».

Мы же с тобой, читатель, пойдем другим путем – заглянем в «зеркало» XX века. Заглянем и увидим в метких миниатюрах из сатирического наследия зеркальное отражение бытия, нравов и пороков российского общества тех далеких уже лет. Сверим время на часах. Сопоставим. Как было и как есть сегодня. У них, в России, и у нас, в Беларуси.

И – улыбнемся.

**Архивариус.**




### Графу Витте

*(Премьер-министру)*

*Ох, высиживает Витте*
*Министерское яйцо,*
*И какое, посмотрите,*
*«Вдохновенное» лицо!*
*«Радикальнейшие меры*
*Для спокойствия страны.*
*Но боимся, у премьера*
*Выйдут только «болтуны».*

*(«Шрапнель» №1, 1905 г.)*

***

– Вы кто такой?
– Депутат.
– Стыдитесь! Здоровый человек! Лучше бы работать шли.

*(«Сатирикон» №10, 1908 г.)*

### В магазине

Приказчик *(любезно даме)*:
– Может, из предметов роскоши желаете: мыло или зубную щеточку?

*(«Сатирикон» №35, 1908 г.)*

***

*Я пришел к тебе с приветом*
*Рассказать, что депутатов*
*Распустить желают летом,*
*Чтоб потешить бюрократов.*

*(«Защитник» №49, 1908 г.)*

### Одно и то же (за буфетом)

– Скажите… Вы не из Союза русского народа?
– Нет, но выпить всегда могу.

### Фразы для перевода на иностранные языки

– Присутствовали ли вы когда-нибудь на митинге?
– Да, я еще хожу с перевязкой…

*(«Патрон» №52, 1908 г.)*

### Переворот

*(Самая короткая пьеса в мире)*

**Действие 1-е**
Действующие лица: Царь. Министры. Депутаты. Войско. Народ. Царские слуги и холопы.

**Действие 2-е**
Действующие лица: те же, за исключением царя…

*(Занавес.)*

*(Из журнала «Барабан», 1917 г.)*

**Вычитал Иосиф КАЛЮТА.**



НА ПОЛЯХ САММИТА

## Закрытая встреча президентов США и России

В Китае на полях саммита стран «Большой двадцатки» состоялась закрытая встреча президентов США и России **Барака Обамы** и **Владимира Путина.**

Как сообщил пресс-секретарь российского президента **Дмитрий Песков,** обсуждалась ситуация в Сирии и в Украине. По его словам, встреча продолжалась дольше, чем планировалось, прошла «хорошо» и совместная работа будет продолжена.

Ранее, в понедельник, Керри и Лавров не смогли согласовать координацию действий США и России в Сирии из-за серьезных разногласий.

СЛЫШАЛИ?

## Украинская «Мрия» становится китайской и грозит потеснить российские «Русланы»

Украинская компания «Антонов» собирается строить сверхтяжелые транспортные самолеты совместно с Китаем.

Накануне стало известно, что компания заключила соглашение с китайской фирмой Aerospace Industry Corporation of China (AICC) договор о сотрудничестве. В рамках этого сотрудничества планируется достроить второй экземпляр самого большого в мире самолета – Ан-225 "Мрия", а потом организовать в Китае производство таких самолетов по украинской лицензии.

Правда, эксперты полагают, что, возможно, КНР не собирается серийно выпускать копию "Мрии", а просто изучая с помощью украинских специалистов уже построенную машину, создаст что-то свое.

МИРОВЫЕ ПРОБЛЕМЫ

## Кому принадлежат острова в Южно-Китайском море?

Постоянная палата третейского суда в Гааге постановила, что Китай не имеет приоритетных прав на использование Южно-Китайского моря.

Иск в международный арбитраж подали в 2013 году Филиппины, которые утверждают, что деятельность Китая в этой акватории, включая острова и рифы, проходит в нарушение норм международного права.

Власти КНР вообще не принимали участия в процессе, так как не признали правомерность иска и правомочность трибунала в вынесении решения по этому вопросу. Пекин считает спорные острова эксклюзивной экономической зоной, а китайский народ пользуется ими более двух тысяч лет.

Соединенные Штаты в преддверии вынесения решения отправили в регион свой авианосец, что вызвало резкую реакцию в Пекине.

ВЫБАЧАЙЦЕ!

У «Народнай Волі» №68 за 2 верасня ў артыкуле "Преданный, но несамостоятельный" (5-я паласа) пра Антона Вайна, цяперашняга кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, па недаглядзе карэктара дапушчана недарэчная і смяхотная, але ад таго не менш прыкрая памылка: пазначана, што расійскі чыноўнік нарадзіўся ў 1772-м, а не ў 1972 годзе.

Прыносім шчырыя прабачэнні чытачам!

КОММЕНТАРИЙ

## Вопросы о будущем Узбекистана без ответов



Бывшего президента Узбекистана Ислама Каримова похоронили в субботу, но пока без ответов остается множество вопросов о его смерти и о том, в каком направлении поведет страну новое руководство.

Многим показалось странным то, как узбекские власти преподнесли весть о кончине президента. Никаких подробностей о его заболевании в заявлении не было. 29 августа младшая дочь президента Лола Каримова-Тилляева в «Инстаграме» сообщила, что у ее отца произошел инсульт и что он находится в реанимации.

Первые сообщения о его смерти появились сразу после официального заявления о его госпитализации 28 августа.

В тот же день русскоязычное издание «Фергана» опубликовало первое сообщение о смерти Каримова.

По информации базирующегося в Москве агентства, смерть Каримова наступила между 15.00 и 16.00 по местному времени 29 августа.

Почти сразу последовали опровержения от источников в президентской администрации и близких к семье Каримова людей.

К тому времени как Кабинет министров официально объявил о смерти бывшего президента вечером 2 сентября, несколько иностранных лидеров, включая премьер-министра Турции, успели выразить свои соболезнования узбекскому народу.

Остается до конца не ясным, когда именно умер Каримов.

Так, в медицинском заключении сообщалось, что иностранные специалисты, в том числе профессор Александр Потапов, директор Института нейрохирургии имени академика Н.Н.Бурденко, который прибыл в Ташкент 28 августа, боролись за жизнь президента до его кончины 2 сентября.



Но узбекская служба Би-Би-Си выяснила, что профессор Потапов вернулся на работу в Институт Бурденко в Москве еще 31 августа.

Другой российский специалист, профессор Лео Бокерия, имя которого приводилось в официальном медицинском заключении, также был в Москве 29 августа.

Некоторые предполагают, что узбекские власти никогда не сталкивались с подобной ситуацией и не знали, как вести себя в случае внезапной смерти президента.

Один из пользователей социальных сетей написал: «Узбекское правительство не может подтвердить смерть президента, потому что от самого президента инструкций не поступало».

По данным источника Би-Би-Си в администрации Каримова, различные группы, борющиеся за власть, хотели достичь согласия о преемнике президента до того, как официально объявить о его кончине.

В соответствии с Конституцией Узбекистана, в случае смерти президента или его неспособности исполнять свои обязанности власть временно передается главе Сената до проведения выборов в срок до трех месяцев. Узбекские власти до сих пор (на вчерашний день) не объявили имени временно исполняющего обязанности президента и не сообщили о порядке проведения президентских выборов.

Однако Кремль заявил, что президент Владимир Путин направил соболезнования главе верхней палаты парламента и временно исполняющему обязанности президента Нигматилле Юлдошеву.

Юлдошев, бывший министр юстиции, не считается серьезным претендентом на власть и не принимал активного участия в траурной церемонии. По крайней мере публично он не встречал прибывающих в Самарканд иностранных лидеров, приехавших на похороны Каримова.

Премьер-министр Шавкат Мирзиёев и его первый заместитель Рустам Азимов несли гроб покойного президента и стояли бок о бок в ходе прощальной церемонии.Оба они уже давно назывались среди наиболее вероятных преемников Ислама Каримова.

Однако только Мирзиёев, который был к тому же председателем комиссии по похоронам президента, встретился с прибывшим на церемонию российским премьером Дмитрием Медведевым.

59-летний Мирзиёев занимает пост премьер-министра рекордно длительное время и обладает репутацией человека, полагающегося скорее на кулак, чем на ум.

Мирзиёев курирует ключевой для страны сельскохозяйственный сектор, включая хлопковую индустрию, которую многие за рубежом критиковали за использование детского и подневольного труда. Сообщалось также о его тесных связях с российскими олигархами. Он тесно сотрудничал с Владимиром Путиным, когда в 2007–2011 годах последний занимал должность премьер-министра.

Однако многие считают, что реальная власть в стране принадлежит сейчас Рустаму Иноятову, главе Службы национальной безопасности (СНБ). В дипломатической депеше США от 2008 года его называют «ведущим стражем при дворе президента Каримова», а стиль его поведения описывается как угрожающий.

71-летний Иноятов считается главным инициатором мер, направленных на уменьшение влияния дочери президента Гульнары.

Важной фигурой является давний глава президентской администрации Зелимкон Хайдаров. Он может играть важную роль в закулисных процессах.

Узбекское правительство пока воздерживается от каких-либо заявлений по поводу будущего направления внешней политики.

Президент Каримов пытался играть на противоречиях между региональными интересами крупных держав и сопротивлялся попыткам Москвы вовлечь Узбекистан в свои экономические и силовые блоки.

Президент Барак Обама, который, несмотря на критику правозащитных групп, сотрудничал с Каримовым в сфере безопасности, заявил о наступлении «новой эры» в Узбекистане.

Какая она?

Би-Би-Си.

ТАМ, В РОССИИ



Михаил ОСОКИН

## Человек ли женщина?

*России нужны казачата – такой лозунг выдвинул краснодарский губернатор Кондратьев.*

Он объявил, что велел открыть во всех школах края казачьи классы – в них и будут воспитывать казачат с семи лет: «Уж тут нашу молодежь научат Родину любить». Кубанские казаки уже активно учат любить Родину не только школьников, но и самые разные слои взрослого населения – в соответствии со своими представлениями о правильном общественном устройстве. Например, они традиционно устраивают пикеты против концертов Бориса Моисеева.

Физические меры воздействия предусмотрены не только для оппозиции: например, казачьи атаманы предлагают пороть уличных хулиганов и художников, которые оскорбляют нравственность. Нагайка грозит и посетителям ночных клубов – по крайней мере в Петербурге. Там казаки решили устраивать по клубам рейды: «Дежурные патрульные смены будут следить за соблюдением нравственности, морали и православных традиций в ночных шоу». Если строго следовать нормам морали, то, видимо, мужчины и девушки должны будут танцевать в разных залах.

Не забыты и женщины – те, кто, по представлениям казаков, нарушает нормы морали. Депутат парламента Краснодарского края от фракции «Единая Россия» казачий генерал Громов предложил бить женщин нагайками для борьбы с курением. И свою программу перевоспитания курящих женщин генерал изложил весьма образно: «Пороть до ус… Чтоб неповадно было».

А призывы атамана Громова использовать нагайку решили дополнить еще и художественным оформлением улиц. Курящих женщин стали публично называть «вонючками» – такие плакаты появились в Краснодаре. «Конечно, от мужчин пахнет розами, – возмущаются жительницы Кубани. – А женщины, значит, существа более низкого сорта, не люди».

Еще на Маконском соборе в 585 году иерархи христианской церкви обсуждали вопрос, человек ли женщина. Решили, что да. И вот подобный вопрос опять возник – теперь на Кубани.

koment@sobesednik.ru

СВЯТЫНИ

## Ватикан: пицца для бедных в честь канонизации матери Терезы



В Ватикане празднуют причисление матери Терезы к лику святых. На церемонию, которая проходила на площади Святого Петра в Ватикане, собрались около 100 тысяч человек. Мать Тереза родилась в албанской семье в Скопье, но почти всю жизнь провела в Калькутте, где она основала благотворительную миссию. Именно поэтому ее часто называют «мать Тереза из Калькутты».

После завершения церемонии Папа Римский Франциск пригласил 1,5 тысячи бедняков и нуждающихся на обед, угостив их неаполитанской пиццей. Их специально привезли на автобусах для участия сначала в церемонии, а потом в обеде. Понтифик назвал мать Терезу, посвятившую свою жизнь нуждающимся в Индии, "святой покровительницей бедняков".

АКЦИЯ ПРОТЕСТА

## Венесуэла: многотысячный марш оппозиции



В столице Венесуэлы прошел многотысячный марш оппозиции с требованием назначить дату референума по импичменту президента **Николаса Мадуро.** По оценкам организовавшего марш Блока демократического единства, на улицы Каракаса вышли около миллиона человек, по подсчетам властей, не больше 25 тысяч.

Один из лидеров оппозиции Хесус Торреальба заявил: "Сегодняшний день – это начало последнего этапа нашей борьбы! И все вышедшие на улицы венесуэльцы клянутся использовать наше конституционное право на мирные акции протеста до тех пор, пока не произойдут мирные, демократические, конституционные перемены".

Следующий марш в поддержку референдума об отставке Мадуро оппозиция планирует провести 7 сентября.

Президент Мадуро собрал своих сторонников и сообщил им, что властям удалось сорвать попытку государственного переворота во время марша оппозиции.

СТОП-КАДР

## Оперный театр в Дубае открывает двери



В Дубае появился оперный театр – рабочие вносят последние штрихи в облик здания. Храм культуры находится рядом с 828-метровой башней Бурдж-Халифа, самой высокой в мире. Учитывая портовую историю Дубая, театр выполнен в форме дау – традиционных арабских судов, веками бороздивших воды залива. Дизайн разрабатывали те же архитекторы, что построили Бурдж-эль-Араб, Крещендо в Баку и башню Хураонг в Китае.

Дубайская опера – часть 20-миллиардного проекта, призванного привлечь больше туристов и привнести в этот деловой город культурный штрих.

У НИХ

## В Шотландии началась подготовка к новому референдуму о независимости



Первый министр правительства Шотландии Никола Стерджен объявила о начале подготовки к проведению второго референдума о независимости Шотландии. Она призвала сторонников отделения страны от Великобритании принять участие в крупнейшем в истории Шотландии политическом обсуждении, чтобы дать главе правительства возможность оценить уровень поддержки народом идеи нового референдума. Первый министр знает, что не может проводить плебисцит, если риск поражения слишком высок, отмечает издание The Independent.

